6 красавіка 1999 г. аўторак

# НАВІНЫ

№37 (568) кошт свабодны




стар.3

РЭПАРТАЖ У НУМАР

# «Вертыкальныя» выбары

## Усе свае перадвыбарчыя абавязацельствы перад прэзідэнтам «вертыкальшчыкі» і Цэнтрвыбаркам выканалі

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ, Стоўбцы**

**4 красавіка ў Беларусі адбыліся выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў. Па афіцыйнай інфармацыі, галасаванне праходзіла надзвычай актыўна. Ужо ранкам у панядзелак сцвярджалася, што сваім выбарчым правам скарысталіся больш за 70% выбаршчыкаў.**

З'яўленне на правінцыйным выбарчым участку горада Стоўбцы карэспандэнта НАВІНАЎ выклікала агульны перапалох, разгубленасць і прапановы патэлефанаваць «куды трэба». Пасля трохразовай праверкі дакументаў старшыня камісіі згадзілася крыху паразмаўляць са мною і паведаміць некаторую інфармацыю.

Тым часам у мяжуючым з залай для галасавання буфеце ішла гулянка. З'яўленне на паліцах выбарчага ўчастка розных прадуктаў харчавання, а таксама гарэлкі на разліў зрабіла з яго месца паломніцтва спачатку тых, каму трэба было апахмяліцца, а пасля тых, каму трэба было «дагнацца». Падаграваў дзеянне ансамбль народнай песні, дарэчы, сам ужо добра «падагрэты», пад гукі якога электарат часам пускаўся ў скокі.

У шчырай размове маладзенькая старшыня камісіі паскардзілася, што не разумее, што гэта за выбары, калі на адно месца прыпадае толькі адзін кандыдат, і навошта траціць народныя грошы. На заўвагу, што дэмакратычныя партыі адмовіліся ад удзелу ў выбарах, яна адказала літаральна наступнае: «Ну і добра, хай лепш думаюць, як прэзідэнцкія выбары правесці!» На маё здзіўленне, яна дадала, што, маўляў, яна і сама будзе ўдзельнічаць у выбарах, прызначаных на 16 траўня, і знаёмых прывядзе.

Між тым, галасаваць народ ішоў вяла, і бліжэй да гадзіны адзначылася ў выкананні свайго грамадзянскага абавязку крыху больш за 20%. У членаў камісіі пачаліся хваляванні, што выбары ўсё ж не адбудуцца, і разважанні, ці дадуць ім тады тыя 1 млн. 700 тыс., што паабяцалі ў райвыканкаме перад пачаткам выбараў.

Прайшоўшы па суседніх выбарчых участках, я нічога новага для сябе не адкрыў. Кідаліся ў вочы галасуючыя пенсіянеры з пытаннем: «А што трэба выкрэсліваць, каб прэзідэнта падтрымаць?..» ■


Фота А.Мальноўскага

● Новае пакаленне выбірае

### Не галасуюць дэмакраты, злачынцы, бамжы

**Вадзім ДОЎНАР**

Ад удзелу ў выбарах адмовіліся апазіцыйныя партыі. Акрамя гэтага, па звестках нашага карэспандэнта, прагаласаваць не здолелі зняволеныя і тыя, хто на дзень галасавання не мелі вызначанага месца жыхарства. А.Лукашэнка, у якога, мяркуем, пытанняў з прапіскай ніколі не ўзнікала, выкарыстаў магчымасць падтрымаць «честного и порядочного человека» на выбарчым участку № 16. У інтэрв'ю журналістам ён выказаў упэўненасць у тым, што розніцы паміж цяперашнімі мясцовымі выбарамі і «супердэ-макратычнымі выбарамі» не будзе. Аптымізм прэзідэнта, праўда, не падзялялі міжнародныя арганізацыі, грамадскія аб'яднанні і некаторыя палітычныя партыі. Сярод іншых сваіх назіральнікаў на ўчасткі накіравалі ААН, Асацыяцыя прадстаўнікоў выбарчых арганізацыяў Еўропы. Нягледзячы на такі пільны нагляд за працэдурай галасавання, прэзідэнт лічыць, што склад мясцовых Саветаў «якасна не зменіцца». Напэўна, ведае, калі гаворыць. ■

# Тяжелая весна Геннадия Карпенко

## Лидер оппозиции Геннадий Карпенко находится в больнице в крайне тяжелом состоянии

**Наталья РАДИНА**

Вице-спикер Верховного Совета 13 созыва, председатель Национального исполнительного комитета Геннадий Карпенко 31 марта был доставлен в городскую больницу скорой помощи с диагнозом «кровоизлияние в мозг». 1 апреля Геннадий Дмитриевич был переведен в 9-ю минскую клиническую больницу, где в тот же день ему была сделана срочная операция по удалению гематомы. Сейчас он находится в реанимационном отделении и вот уже который день не приходит в сознание.

По словам наших источников, состояние Геннадия Карпенко крайне тяжелое, в настоящий момент ему проводят искусственную вентиляцию легких.

Буквально за несколько дней до трагического происшествия журналист нашей газеты разговаривала с Геннадием Дмитриевичем. Он был бодр и полон планов на будущее. Тогда же он сообщил, что приглашен в Варшаву на международную конференцию, куда съедутся президенты, премьеры и политики самого высокого уровня, в том числе госсекретарь США Мадлен Олбрайт. Геннадий Карпенко испытывал вполне обоснованную гордость, что именно он, а не президент Лукашенко будет представлять свою страну на этом мероприятии.

Несмотря на всю сложность ситуации, мы надеемся, что Геннадий Дмитриевич поправится и обязательно реализует все то, что задумал. ■



Гарачая лінія

### Беларускім шляхам пройдуць масквічы

**Чарнобыльскім шляхам пойдуць маскоўскія антыфашысты.**

Дэлегацыя «Антыфашысцкага маладзёжнага дзеяння» (АМД) з Масквы плануе ўзяць удзел у «Чарнобыльскім шляху-99», які традыцыйна пройдзе ў Мінску 26 красавіка. Нагадаем, што падчас леташняга «Чарнобыльскага шляху» 15 актывістаў АМД былі затрыманыя мінскай міліцыяй, на працягу сутак утрымліваліся ў спецпрыёмніку-размеркавальніку і потым пад аховай АМАПа іх дэпартавалі ў Расію.

У распаўсюджанай гэтай арганізацыяй заяве гаворыцца, што сёлета мяркуецца ўключыць у склад дэлегацыі шэраг вядомых праваабаронцаў, актывістаў грамадскіх арганізацыяў, у тым ліку палітыкаў з аб'яднання «Правая справа», журналістаў — усяго мяркуецца прыбыццё ў Мінск 45 чалавек. Акрамя ўдзелу ў шэсці і мітынгу, расійская дэлегацыя зацікаўленая ў назіранні за ходам падрыхтоўкі да выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 16 траўня г.г. Паводле вынікаў візіту будзе праведзеная прэс-канферэнцыя, а таксама сустрэча з прадстаўнікамі беларускай апазіцыйнай моладзі.

*Генадзь БАРБАРЫЧ*

### Прэзідэнт выступіць з пасланнем

**7 красавіка Аляксандр Лукашэнка выступіць перад парламентарыямі са штогадовым пасланнем.**

Сустрэча кіраўніка краіны з парламентарыямі адбудзецца ў Авальнай зале Дома ўрада на сумесным паседжанні членаў Савета Рэспублікі і дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.

### 7 красавіка — Дзень здароўя

Сусветны дзень здароўя будзе адзначацца ва ўсім свеце 7 красавіка ў межах Міжнароднага года састарэлых людзей пад дэвізам «Актыўнасць — шлях да даўгалецця». Да гэтай даты ў Беларусі зацверджаная галіновая дзяржаўная праграма «Здароўе народа». Пра гэта паведаміў намеснік міністра аховы здароўя Валерый Філонаў.

### Бабулі падаравалі долары

**Сапраўднае здавальненне атрымала адна з пенсіянерак райцэнтра Чэрыкаў Магілёўскай вобласці, калі пачала знаёміцца са зместам гуманітарнай пасылкі з заходняй дабрачыннай дапамогі.**

Яе радасць выклікалі не прадукты харчавання, што ўтрымліваліся ў вялікай кардоннай скрыні. Калі жанчына разарвала пакет з белай мукой, то заўважыла там зялёную паперку. Гэта былі 100 амерыканскіх долараў, пакладзеныя туды нейкім добрым чалавекам з Захаду. Фактычна, бабуля атрымала яшчэ адну пенсію, прычым за ўвесь год.

*Іван ЗАСАДА*

АЎТОРАК З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ

## Наша дзіўная памяркоўнасць

Адзінае, у чым супадаюць пазіцыі нашых урадавых і апазіцыйных ідэолагаў — услаўленне беларускай памяркоўнасці. Услед і звычайныя грамадзяне прымаюць апрышчам сваіх лепшых надзеяў гэтую «унікальную» рысу народнай псіхікі. Каб не памяркоўнасць беларусаў, калі паверыць Лукашэнку, дык ужо ў нас выбухнула б грамадзянская вайна, разбурыліся б мір і спакой, якія дастойна вылучаюць Беларусь сярод грымлівых суседзяў. Менавіта беларуская памяркоўнасць, на думку дзеячаў апазіцыі, стварае добры грунт для росквіту дэмакратыі пасля перамогі над сённяшняй аўтакратыяй. Такой, гавораць нам, надзвычай развітой памяркоўнасці пазбаўлены рускія і палякі, яе не маюць разважлівыя чэхі, літоўцы і шмат іншых нацыяў. Беларусаў заклікаюць ганарыцца набытай за стагоддзі незвычайнай вартасцю, развіваць яе ў грамадстве і кожнаму паасобку. Ну, і гэтак далей...

Але як пачнеш прыглядацца, дык міжволі пачынаеш дзівавацца, якую памяркоўнасць узносяць на вышыню амаль дасягнутага ідэалу ідэйныя творцы? Варта ўтоўпіцца ў аўтобус, каб замест памяркоўнасці адчуць звычны закон локця. Тое ж дэманструюць сусед з злосным сабакам, прамовы правых, лямант на мітынгах адэптаў рэжыму, амапаўцы, міліцыя і да т. п.

Менш памяркоўныя чэхі здолелі выйсці на вуліцы ў час «аксамітнай рэвалюцыі» мільёнам асобаў. «Разважлівыя» літоўцы цярпелі адсутнасць цяпла і святла цягам халоднай зімы, калі Расія спрабавала навярнуць іх у «брацкі саюз» спачатку аўтаматамі, потым перакрытым газаправодам. Літоўцы мелі волю да свабоды. У нас дамінуе воля да памяркоўнасці, якая ў рэальнасці абарочваецца маўклівасцю, рахманасцю, стратай самапавагі, бо шануе старадаўнія дэвізы: «Не высоўвайся», «Не замінай мне. І я да цябе не прычаплюся», «Абы ціха было» і г. д.

Памяркоўны беларус жыве ва ўпэўненасці , што, калі пастарацца, дык падобна Адысею заўжды прашчымішся паміж Сцылай і Харыбдай, у якасці якіх выступаюць прэзідэнцкі, амапаўскі, дырэктарскі ціск і пачуццё асабістай зняважанасці. Можна быць і задаволеным, калі пераканаць сябе, што прашчаміўся.

Зразумела, чаму гэтакую якасць вітаюць урадавыя ідэолагі : памяркоўны — значыць сацыяльна бяспечны. Незразумела, чаму памяркоўнасць здаецца добрай народнай адметнасцю творцам дысідэнцкіх ідэяў: памяркоўны заўжды абыдзе канфлікт па крывой. Наогул, чаму наша памяркоўнасць дзейнічае там, дзе ёсць рызыка займець непрыемнасці, і знікае, калі няма небяспекі адказваць за хамства, грубасць, знявагу другога чалавека.

Чамусьці людзі, якія назіраюць нас з боку, разумеюць нашу апетую палітыкамі памяркоўнасць як сацыяльную боязь, апатыю і абыякавасць, якім дзеля прыстойнасці надаецца някрыўдная назва. Наколькі памяркоўныя — стольki і пацерпім. Ужо такіх цярплівых і не засталося нідзе, адныя мы памяркоўна сумуем — такі, маўляў, наш беларускі лёс.

СУДОВЫ ПРАЦЭС

# Энтані Саванюк сеў у турму

Эля ЗЯНЬКОВА, Лондан

Пачынаючы з 1 красавіка 1999 г. ураджэнец Брэстчыны, а цяпер падданы Вялікабрытаніі Энтані (Андрэй) Саванюк адбывае сваё пакаранне ў адной з турмаў Лондана.

Суд Вялікабрытаніі прыгаварыў былога каменданта Дамачаўскай паліцыі 78-гадовага Саванюка да пажыццёвага турэмнага зняволення. Следства па справе Саванюка, які пасля вайны пакінуў Беларусь і стаў англійскім грамадзянінам, вялося на працягу трох гадоў. Яму інкрымінавалася забойства чатырох мірных жыхароў, у тым ліку падлеткаў, а таксама ўдзел у масавых расстрэлах.

На судзе Андрэй Саванюк абвяргаў абвінавачванні, якія яму прад'яўляліся, аднак не адмаўляў, што ў гады вайны служыў у паліцыі, сцвярджаючы, што рабіў гэта вымушана. Нягледзячы на дзесяткі гадоў, якія раздзяляюць злачынства і пакаранне, суду ўсё ж удалося даказаць асабісты ўдзел Саванюка ў расстрэле жанчыны-яўрэйкі.

На працэс Саванюка было патрачана больш за 25 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. Як шырока адзначаецца ў брытанскай прэсе, гэта быў апошні працэс з 376, распачатых у 1991 годзе. Бо забава, на самой справе, дарагая і не надта паспяховая.

Карэспандэнтка НАВІНАЎ пацікавілася, што мяркуе наконт апошняга працэсу адзін з самых моцных лонданскіх адвакатаў, украінец па паходжанні Адрыян Янкала.




Фотаздымак з газеты *Guardian*

— *Справа ў тым, што падчас Другой сусветнай вайны было нямала людзей, якія былі вымушаныя выконваць загады. А таму адказваць перад законам, у першую чаргу, павінны тыя, хто даваў загады. З другога боку, людзі, падобныя Саванюку, ужо вельмі старыя. Яны не заўсёды ў стане адэкватна адказваць перад судом за свае ўчынкі. На маю думку,* — лічыць А.Янкала, — *іх трэба пакінуць у спакоі. Іхнім суддзёй зараз можа быць сумленне, якое пастаянна нагадвае аб тым, што яны зрабілі.*

Аднак грамадзянам Беларусі, якія перажылі вайну, цяжка пагадзіцца з такой думкай адваката. У Дамачаве рашэнне суда ўспрынялі з аблягчэннем: нягледзячы на тое, што па трох з чатырох пунктаў абвінавачвання злачынца быў апраўданы, ён атрымаў вышэйшую меру пакарання, што прымяняецца ў Вялікабрытаніі, — пажыццёвае зняволенне.

**Падрабязнасці вышуку і арышту англійскімі спецслужбамі Энтані Саванюка чытайце ў пятнічным нумары газеты НАВІНЫ**

## Вязень Пішчалаўскага замка

Алесь ПАЎЛОВІЧ

Кандыдат у прэзідэнты Міхаіл Чыгір, якога ўлады затрымалі 30 сакавіка, пераведзены з часовага ізалятара ў Дабрамысленскім завулку ў следчы ізалятар па вуліцы Валадарскага. Менавіта ў гэтай турме, вядомай таксама пад назвай «Пішчалаўскі замак», утрымліваюцца былы міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў і народны дэпутат Андрэй Клімаў.

Былога прэм'ера «прапісалі» ў ізалятары на Валадарскага ў пятніцу. Юлія Чыгір сцвярджае, што мужу дагэтуль не прад'яўлена абвінавачванне, і загад аб утрыманні яго пад вартай называе «незаконным арыштам». Факт такога загаду пацвярджае следчы Лаўрэнюк, які вядзе справу Чыгіра. Па звестках Юліі Чыгір, яе муж з яшчэ двума сядзельцамі знаходзіцца ў камеры, якая разлічана на 4-х чалавек. У жонкі Чыгіра прынялі перадачу, задаволілі яе просьбу аб спатканні з мужам, у чым раней адмаўлялі. Юлія Чыгір лічыць, што следчы і турэмнае начальства атрымалі загад часова быць да Чыгіра больш лагоднымі. «Не выключана, што гэта тлумачыцца знаходжаннем у Мінску рабочай групы АБСЕ пад кіраўніцтвам Андрыяна Северына, аднак пасля візіту гэтая «адліга» скончыцца», — кажа Юлія Чыгір.

Кандыдат у прэзідэнты Чыгір дагэтуль не прызнае сябе ні ў чым вінаватым і адмаўляецца ад адвакатаў. Абараняць былога прэм'ера плануе ягоная жонка. Яна спасылаецца на 49-ы артыкул Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, які дазваляе такую магчымасць «блізкім сваякам». Праўда, з першай спробы стаць абаронцай мужа Юліі Чыгір не ўдалося, заява была адхіленая, але жанчына звярнулася са скаргай у суд і настойвае на тым, каб яе дапусцілі да абароны мужа.

АКЦЫІ

# Уік-энд у турме

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Прыкладна 20 чалавек былі затрыманыя міліцыяй 2 красавіка ў Мінску, пасля заканчэння апазіцыйнай антыядзернай акцыі, арганізаванай Беларускай асацыяцыяй маладых палітыкаў.**

У пятніцу ў Беларусі афіцыйна адзначалася чарговая гадавіна дня «яднання з Расіяй». Улады з гэтай нагоды арганізавалі ў сталіцы святочныя гулянні, а таксама нешматлікі афіцыйны мітынг прыхільнікаў інтэграцыі. Апазіцыя вырашыла адзначыць «свята інтэграцыі» акцыяй пратэсту супраць магчымага размяшчэння ў Беларусі расійскай ядзернай зброі. Гарадскія ўлады дазволілі ім правесці мітынг на плошчы каля Опернага тэатра. Але моладзь хацела дэманстраваць свой пратэст больш публічна. Прыкладна 400 чалавек сабраліся ўвечары на плошчы Я.Коласа, і арганізатар акцыі дэпутат ВС Анатоль Лябедзька павёў дэманстрантаў у напрамку Опернага. Пасля мітынгу міліцыя пачала «хапун». Адным з першых у яго трапіў «лідэр маладых» Анатоль Лябедзька. Удзельнікаў апазіцыйнай акцыі, сярод якіх было многа непаўналетніх, хапалі і ў іншых месцах горада і дастаўлялі ў Савецкі РАУС. Па нашых звестках некаторыя апазіцыянеры пры затрыманні былі моцна збітыя. Прычым азвярэлыя «ахоўнікі парадку» не разбіралі, каго б'юць — мужчынаў, жанчын альбо падлеткаў. Найбольш пацярпела ад міліцыянтаў Галіна Куніна, якая з пастарунку трапіла адразу ў шпіталь. Праз некалькі гадзінаў у зняволенні засталіся адзінаццаць дарослых дэманстрантаў разам са сваім лідэрам Лябедзькам. Усе выхадныя дні яны правялі ў камерах сумнавядомага спецпрыёмніка па вуліцы Акрэсціна. У панядзелак дэманстрантаў пачалі дастаўляць у суды.

## Высокий чин из ОБСЕ в Минске занимался политикой

Алесь ДАЩИНСКИЙ

**Вик заявил, что ОБСЕ не направляла наблюдателей на местные выборы. Визит главы рабочей группы по Беларуси г-на Северина носил политический характер.**

Во время проведения местных выборов находился председатель рабочей группы по Беларуси Андриан Северин. Он провел встречи с представителями профсоюзов, неправительственных организаций, оппозиционных политических партий, а также представителями властей. Господин Северин имел продолжительную беседу с председателем Центризбиркома Виктором Гончаром. Вчера на брифинге для журналистов руководитель консультативной наблюдательной группы ОБСЕ Ханс-Георг Вик заявил, что ОБСЕ не направляла наблюдателей на выборы. Визит председателя рабочей группы имел политический, а не аналитический характер.

Напомним, что господин Северин возглавляет рабочую группу по Беларуси, которая создана по решению парламентской ассамблеи ОБСЕ. Она обязана поддержать деятельность наблюдательной группы ОБСЕ в Минске и помочь в развитии демократии в нашей стране. Вместе с другими экспертами ОБСЕ Адриан Северин приезжал в Минск в январе этого года и встретился с руководством Верховного Совета 13-го созыва, председателем Центризбиркома Виктором Гончаром, а также побывал в министерстве иностранных дел. Главной темой встреч господина Северина стали предстоящие избирательные кампании, назначенные на 4 апреля и на 16 мая. Выборы в местные органы власти белорусское правительство организовало в соответствии с конституцией 1996 года, легитимность которой остается спорной. Кроме того, в избирательном законе не учтены предложения КНГ ОБСЕ, а ведущие партии отказались участвовать в этой кампании. Господин Северин сообщил, что планируют приехать на президентские выборы, которые состоятся 16 мая. Он сказал, что визит будет также носить политический характер. Он считает необходимым быть в стране, когда происходят «важные политические события».

## На тэрмінале «Саваўта-Брэст» уведзены новы збор

БелаПАН

Па распараджэнні Брэсцкага аблвыканкама з 1 красавіка на тэрмінале «Саваўта-Брэст», які абслугоўвае грузавыя аўтамабілі, што выязджаюць за мяжу, уведзены новы збор — за карыстанне аб'ектамі інфраструктуры.

Згодна з дакументам, за знаходжанне на тэрыторыі тэрмінала парожняга аўтамабіля будзе брацца 5 долараў ЗША ці 10 нямецкіх марак, з гружаных аўтамабіляў — 10 долараў ЗША ці 20 нямецкіх марак. Свае стаўкі прадугледжаныя для аўтобусаў і іншых транспартных сродкаў, якія перасякаюць мяжу праз тэрмінал. Плаціць давядзецца не толькі транзітнікам-чужаземцам, але і рэзідэнтам Беларусі, праўда, розныя сумы. Пазбегнуць гэтага збору немагчыма — мытнае афармленне аўтамабіляў, што ідуць на грузавы аўтапераход «Казловічы», робіцца толькі тут.

## Туберкулёз стаў сусветным бедствам

Аддзел інфармацыі

Згодна з дадзенымі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, калі не прыняць узмоцненыя захады кантролю, да 2020 года будуць інфіцыраваныя туберкулёзам каля мільярда чалавек, 200 мільёнаў захварэюць і 70 мільёнаў памруць ад гэтай самай небяспечнай інфекцыйнай хваробы. Аб гэтым заявіў кіраўнік Мінскага прадстаўніцтва Міжнароднай федэрацыі таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца (МТЧК) Юрген Кронэнбергер.

За апошнія сем гадоў захворваемасць туберкулёзам у Беларусі вырасла ў два разы, а смяротнасць — больш чым на 50 працэнтаў. Сярэдні паказчык захворваемасці туберкулёзам дасягнуў 54.9 на 100.000 насельніцтва, што прыкладна ў 10 разоў перавышае ўзровень захворваемасці ў развітых краінах Заходняй Еўропы. Найбольш трывожная сітуацыя склалася ў месцах пазбаўлення волі, дзе паказчык захворваемасці роўны 1.666 на 100.000 чалавек.

Для рэалізацыі шматгадовай праграмы барацьбы з туберкулёзам у бліжэйшыя тры гады прадугледжваецца выдзяленне 720 тысяч бясплатных абедаў для хворых, размеркаванне сярод іх 30 тысяч харчова-гігіенічных камплектаў, навучанне 118 патранажных сясцёр, набыццё 20 бінакулярных мікраскопаў і лекавых сродкаў для лячэння 100 хворых.

## «Салідарнасці» зноў адмовілі ў рэгістрацыі

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

На сённяшні дзень не існуе ніводнай афіцыйнай арганізацыі, якая займалася б выключна праблемамі студэнцтва. Шанец на яе з'яўленне быў у сераду, 31 сакавіка, калі ў міністэрстве юстыцыі паўторна спрабаваў зарэгістравацца студэнцкі прафсаюз «Салідарнасць». З самага пачатку паседжання можна было заўважыць, што шанцаў на поспех няма, бо прадстаўнік мінюста заявіў, што напярэдадні тэлефанаваў некаторым хлопцам, што ўваходзяць у ініцыятыўную групу, і тыя адмовіліся ад свайго ўдзелу ў БСП. Пасля паседжання гэтыя хлопцы на запыт кіраўніцтва «Салідарнасці» адказалі, што ні ад чаго не адмаўляліся. Па словах прэс-сакратара «Салідарнасці», арганізацыя не збіраецца здавацца і працягне падаваць скаргі ў судовыя інстанцыі.

# «Бомба» №13

## Улады распачалі небяспечную гульню з людзьмі ў пагонах

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Апошнія дні незвычайнае ажыўленне і смутак пануюць у калідорах сілавых структураў. Усе супрацоўнікі абмяркоўваюць новы дэкрэт прэзідэнта і памінаюць яго нядобрым словам.

Сваім дэкрэтам пад нешчаслівым нумарам 13 прэзідэнт змяніў парадак звальнення вайскоўцаў і міліцыянтаў, якія мелі права на пенсію за 20 ці болей гадоў службы. Новыя правілы прадугледжваюць, што супрацоўнікі сілавых структураў могуць цяпер разлічваць на пенсію не раней, чым дасягнуць максімальнага ўзросту. Для вайскоўцаў гэты ўзрост складае 43 гадоў для лейтэнантаў і капітанаў да 60 — для генерал-палкоўнікаў; для міліцыянтаў — ад 45 гадоў для ўсіх чыноў да падпалкоўніка і да 55 гадоў — для генералаў. Ранейшая практыка, калі можна было пайсці на пенсію, праслужыўшы 20 гадоў ці болей (гэта называецца «па выслузе гадоў»), цяпер больш прымяняцца не будзе.

Што гэта значыць на практыцы? Большасць вайскоўцаў і міліцыянтаў планавалі пайсці на пенсію, як толькі праслужаць роўна дваццаць гадоў у сілавых структурах — у 37-39 гадоў. У такім узросце можна яшчэ паспець знайсці сабе годную працу «на грамадзянцы» — у камерцыйнай фірме ці ахоўным агенцтве, адначасова атрымліваючы ад дзяржавы немалую пенсію. Але цяпер ім давядзецца заставацца на сваіх пасадах і чакаць пенсію да 45—50 гадоў. Зрэшты, у «сілавікоў» засталася магчымасць пакінуць шэрагі роднай структуры па выслузе гадоў, але пенсію яны пачнуць атрымоўваць, толькі калі ім споўніцца тыя самыя 45—50. Дэкрэт, праўда, не датычыць тых асобаў, хто ўжо паспеў выйсці на пенсію. І ім цяпер вельмі зайздросцяць былыя калегі.

Відавочна, што дэкрэт прымаўся з дзвюх асноўных прычынаў: па-першае, дзяржава больш не жадае плаціць «лішнія» грошы тым, хто яшчэ здольны працаваць; па-другое, у «органах» цяпер вялікая «цякучасць кадраў».

Натуральна, што рашэнне прэзідэнта не выклікала вялікага энтузіязму ні ў міліцэйскіх, ні ў армейскіх колах. З неафіцыйных крыніцаў нам стала вядома, што ў МУС не спалі ўсю ноч — абмяркоўвалі навапрыдуманае. Апроч таго, наведаўшы гэтымі днямі любое аддзяленне міліцыі ці афіцэрскую сталоўку, можна істотна папоўніць свае запасы ненарматыўнай лексікі.

У прыватных размовах міліцыянты кажуць, што іх проста падманулі: яны прыходзілі працаваць на пэўныя ўмовы, літаральна падпісвалі дні да пенсіі, а цяпер усё рушыцца. На іхнюю думку, было б справядліва, калі б новы парадак выхаду на пенсію датычыў толькі тых, хто прыйдзе на працу ў «органы» і армію пасля прыняцця гэтага дэкрэта.

А вось меркаванне аднаго армейскага палкоўніка: «Што ж гэта такое: маёрам і падпалкоўнікам можна пайсці на пенсію ў 45 гадоў, а нам, палкоўнікам — толькі ў 50? Атрымоўваецца, што мне не варта было станавіцца палкоўнікам, старацца служыць лепш... Мне цяпер 45, я ў бліжэйшы час не збіраўся пайсці на пенсію, але ўсё ж непрыемна, што мяне пазбавілі выбару». Па ягоных словах, дзяржава ўжо не першы раз ускладняе жыццё афіцэрам, але «пройдзе яшчэ паўгода, і пра гэта ўсе забудуцца».

Раней усе вайскоўцы і міліцыянты, якія праслужылі 25 гадоў і хацелі працаваць далей, пісалі рапарт на імя свайго міністра, і той звычайна працягваў ім тэрмін службы яшчэ на пяць гадоў. Цяпер усе «сілавікі», пачынаючы з палкоўніка і вышэй, будуць прасіць дазвол ужо не ў свайго міністра, а ў прэзідэнта Лукашэнкі. Той будзе асабіста вырашаць, ці варты той ці гэты палкоўнік або генерал-маёр працягваць працаваць на сваёй пасадзе, ці яму надышоў час ісці на пенсію — вяваць з пустазеллем на дачных агародах. ■



**Былы міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Павел КАЗЛОЎСКІ:**

— Выключна шкодны дэкрэт. Усе тыя, хто служыць у арміі, успрынялі яго негатыўна — я ўжо шмат з кім размаўляў, ад маёраў да генералаў. Ад такіх дэкрэтаў — толькі шкода. Прэзідэнт хоча ўтрымаць афіцэраў, каб яны не звальняліся з арміі — вядома, што каля дзвюх з паловай тысяч афіцэраў штогод пакідаюць армейскія шэрагі. Сыходзяць найлепшыя, бо ім мала плацяць. Але не дэкрэтам можна ўтрымаць людзей на месцы — пакуль не будуць забяспечаныя павага да арміі і належнае фінансаванне, людзі будуць сыходзіць.

У 1992 годзе быў прыняты закон аб пенсіях ваеннаслужачым — нармальны, дэмакратычны закон. Пасля 20 гадоў выслугі афіцэр мог пайсці на пенсію. А цяпер яго адмяняе гэты дэкрэт. Я ўпэўнены, што ні ў адной краіне няма такога тупога закона.

Дэкрэт не надае аўтарытэту і асабіста прэзідэнту. Калі раней у арміі нехта яшчэ меў ілюзіі наконт яго, то цяпер прэзідэнт займеў шмат праціўнікаў у пагонах. ■



**Экс-спікер Вярхоўнага Савета генерал міліцыі Мечыслаў ГРЫБ:**

— Нават у самыя чорныя гадзіны беларусы захоўвалі павагу да людзей у форме. Гэты дэкрэт — нейкае глупства, недарэчнасць. Прэзідэнт не разумее таго, што ён сам зрабіў. ■



**Падпалкоўнік КДБ у адстаўцы Валерый КОСТКА:**

— Цяпер у «органах» — праблема з кадрамі. Афіцэры да апошняга часу сыходзілі, праслужыўшы дваццаць гадоў, бо атрымлівалі малы заробак і не жадалі займацца палітычным вышукам. Дэкрэт можа «прытармазіць» працэс ратацыі кадраў, гэта спосаб захаваць пад кантролем тых, хто не жадаў служыць далей.

Ні апазіцыя, ні АБСЕ не робяць столькі шкоды прэзідэнцкай папулярнасці, як сам прэзідэнт. Цяпер сваім дэкрэтам Лукашэнка стварыў ненармальную абстаноўку ў «органах», у тым ліку і сярод тых, хто займаецца непасрэдна ягонай бяспекай. Ён пазбавіў людзей права на выбар: пайсці на пенсію ці працягваць служыць далей. Адзінае, што цяпер застаецца гэтым афіцэрам — застаючыся на старой працы, шукаць сабе новую. ■

**По сведениям, полученным из пресс-служб силовых структур, под декрет**

| «попали» | не «попали» |
|---|---|
| армия | прокуратура |
| МВД | таможня |
| КГБ | главное управление государственной охраны |
| пограничные войска | |
| министерство по чрезвычайным ситуациям | |

## КАМЕНТАР навінаў

С принятием декрета N13 белорусский президент вступает на путь опасной игры. Неужели денег в казне нет настолько, что власть взялась за свое самое дорогое — людей в погонах?

Силовые структуры — это тот кулак, который любой грамотный политик стремится иметь послушным своей воле. С силовиками заигрывают, их ублажают, им даруют привилегии. КГБ, МВД, Совет безопасности, министерство обороны как правило играют особую роль в большой политике.

Достаточно вспомнить печальную историю главы Верховного Совета Станислава Шушкевича. Он только заикнулся о реформировании КГБ и МВД, как очень скоро лишился власти, а следом за ним то же испытал и беззаботный премьер Вячеслав Кебич. Во время президентской кампании «доброжелатели» из силовых ведомств, что называется, «сливали» информацию в предвыборный штаб Александра Лукашенко. Кебичу на стол попадали одни данные по ситуации в стране и настроениям электората, Лукашенко получал другие — более «уточненные». Силовая машина работала на Лукашенко, и он стал победителем президентской гонки. Сразу после выборов в политической среде распространилась информация, что именно КГБ привел к власти Александра Лукашенко.

Любопытно, что декрет № 13 до последнего момента держался в секрете. Самые высокие чины в администрации и силовых структурах не ведали о готовящейся «бомбе». Многие предполагали, что из-под пера президента вот-вот появится букет указов, касающихся силовиков. Была информация, что эти документы в чем-то «прижмут», но в большей своей части социально поддержат людей в погонах. Тем более, что совсем недавно из уст главы государства на встречах с офицерским составом звучали заверения улучшить их жизнь по многим направлениям (денежное содержание, квартиры, трудоустройство по выходу в отставку).

Однако вышло наоборот. Уже, как и много раз прежде, появляются спасительные для Лукашенко слухи, что кто-то, мол, специально подсунул «несчастливый» декрет президенту и тот его доверчиво подмахнул (как говорится, «не глядя», ведь все знают простодушную доверчивость президента своим министрам и помоўникам). Не стоит, однако, обольщаться (царь — хороший, бояре — плохие): коррективы в судьбы военных внес сам Главнокомандующий, никто, кроме него, не имеет такого права и не осмелится рисковать своей чиновной головой.

Декрет коснулся существенной части населения, ведь по большому счету в Беларуси в каждой второй семье есть военнослужащий или человек, имеющий отношение к структурам, попавшим под роковой документ. Правда, президент исключил из списка попавших под действие этого документа структуры, «близкие к телу», но тем не менее, огромная армия людей теперь сто раз подумает, прежде чем безоговорочно поддержать очередную инициативу власти.

Остается открытым основной вопрос — на что рассчитывали те, кто готовил декрет? Поговаривают, что чем ближе к истечению президентского срока Лукашенко, тем активнее начинается бегство с «тонущего корабля», особенно это касается молодого кадрового состава. Чтобы предотвратить массовый исход офицерских кадров из структур МВД и КГБ, и был порожден злополучный декрет N13. ■

# Палітыкі пакрыўдзілі алігарха Беразоўскага

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Галоўным «дасягненнем» саміта кіраўнікоў дзяржаваў СНД, які прайшоў 2 красавіка ў Маскве, стала бадай што адстаўка Барыса Беразоўскага. Агульнымі намаганнямі, прэзідэнты краінаў Садружнасці знялі з займаемай пасады ўсімі нелюбімага Барыса Абрамавіча. Яго месца заняў былы расійскі віцэ-прэм'ер Юрый Яраў.

Гэтай адстаўцы папярэднічаў цэлы спектакль, арганізатарамі якога, па розных версіях, называюць то Крэмль, то самога Беразоўскага. Па адной з версіяў, самалёту былога выканаўчага сакратара СНД, на якім ён вяртаўся з Еўропы ў Маскву, не прадаставілі паветранага калідора. Беразоўскі быў вымушаны прызямліцца ў Кіеве. Паводле ж іншай, усё гэта арганізаваў сам Беразоўскі, які хацеў заручыцца падтрымкай Леаніда Кучмы. Аднак прэзідэнт Украіны вырашыў не псаваць з-за Беразоўскага адносінаў з Ельцыным, таму алігарх, праседзеўшы два дні ў Кіеве і так нікога не дачакаўшыся ў суботу, узяў курс на Парыж. А тым часам у Маскве прызначылі нова́га «начальніка СНД», якім стаў былы расійскі віцэ-прэм'ер Юрый Яраў. Прэзідэнты таксама назвалі выканаўчы сакратарыят СНД выканаўчым камітэтам. Вось такія своеасаблівыя рэформы. Барыс Ельцын нават быў вымушаны прызнаць, што СНД пакуль не падрыхтаванае для развіцця на новай аснове. Відаць, большая астатніх прэзідэнтаў вынікамі сустрэчы на вышэйшым узроўні быў не задаволены Аляксандр Лукашэнка. Калегі па Садружнасці не падтрымалі ягоную з Ельцыным ініцыятыву прыняць спецыяльны зварот з асуджэннем натаўскай «агрэсіі супраць Югаславіі». Іншыя прэзідэнты кідаюцца такімі тэрмінамі, як «агрэсары», не разыкнулі (бо эканоміка многіх краінаў Садружнасці напрамую залежыць ад заходніх крэдытаў) і прынялі даволі мяккі зварот да альянсу з просьбай вырашыць югаслаўскую праблему дыпламатычнымі метадамі.

У Маскве Аляксандр Лукашэнка больш займаўся рэкламай свайго любімага праекта пад назвай Саюз Беларусі і Расіі. Выступаючы на сходзе з нагоды трэцяй гадавіны інтэграцыі, Лукашэнка неяк у роспачы заявіў, што калі ў самы бліжэйшы час людзі не ўбачаць рэальных вынікаў стварэння агульнай супердзяржавы, «гэтая ідэя будзе надоўга дыскрэдытаваная». ■

## МНЕНИЕ СТРАНЫ

**Сегодня мы открываем новую рубрику. Ее появление на страницах НАВІНАЎ не могло произойти без помощи нашего стратегического партнера лаборатории «НОВАК» — ведущей социологической службы страны. Сотни сотрудников этой лаборатории каждый месяц встречаются с тысячами белорусских граждан, чтобы узнать их взгляд на самые важные проблемы жизни. Из ответов каждого отдельного человека формируется мнение страны, с которым наша газета будет знакомить своего читателя в рубрике «Мнение страны» и сопровождать цифры редакционным комментарием.**

# МНОГО ЛИ ТЕХ, КТО ЗНАЕТ О ПРЕЗИДЕНТСКИХ ВЫБОРАХ?







Белорусская оппозиция смогла, наконец, доказать сама себе банальную истину — активные действия приводят к результату. Правда, не всегда результат бывает однозначно положительным. Оценить инициативу Верховного Совета мы сможем лишь по прошествии времени, но уже сегодня можно сказать, что «идея овладела массами». Создавая информационные поводы, представители оппозиции заставили журналистов как независимых, так и государственных СМИ информировать граждан страны о подготовке президентских выборов. В результате более половины белорусов узнали о том, что 16 мая у них может появиться возможность избрать нового главу государства. Правда, отнеслись к этой возможности по-разному: одобрили — 44,3%; не одобрили — 39,7%. Если эта пропорция сохранится по мере того, как население будет узнавать о приближающихся выборах, то можно будет констатировать раскол страны на две группы, диаметрально противоположные по взглядам на будущее государства. Подобные расстановки сил, когда ни одна из сторон не имеет перевеса, очень часто в истории Новой Восточной Европы оборачивались конфликтами. А из них победителем выходила, как правило, сторона, придерживающаяся более активной позиции. ■



**Збигнев Бжезинский — авторитетный американский ученый и политический деятель. В 80-е годы он выступал с резкой критикой СССР, развязавшего войну в Афганистане, ему принадлежит определение СССР как «империи зла», а также сбывшееся пророчество, что афганская война станет для этой «империи» роковой. Публикуемые редакцией разделы из книги «Большая шахматная игра» посвящены проблемам российской геополитики в отношении стран «ближнего зарубежья», в том числе и Беларуси.**

**Збигнев БЖЕЗИНСКИЙ**

# Черная дыра

Распад в 1991 году самого большого по территории в мире государства создал в самом центре Евразии «черную дыру». Можно сказать, что с карты мира внезапно исчезло геополитическое «сердце континента».

Новая и опасная геополитическая ситуация бросает Соединенным Штатам Америки особый вызов. Первостепенной задачей в данном случае, естественно, является противодействие политической анархии и попыткам враждебной диктатуры захватить власть в неустойчивом государстве, располагающем по-прежнему огромным ядерным потенциалом. Остается задача и на перспективу: каким образом поддержать процесс демократических преобразований и экономического переустройства в России, не допуская одновременно возникновения евроазиатской империи, которая могла бы помешать осуществлению геостратегических намерений Америки по созданию более широкой евро-атлантической системы, с которой стабильная и безопасная Россия могла бы в последующем быть связана.

## Новое геополитическое положение России

Дезинтеграция Советского Союза стала последним этапом постепенного распада гигантского советско-китайского коммунистического блока, который в течение небольшого периода равнялся по территории империи Чингис-хана, а иногда даже выходил за ее границы. Однако современная евроазиатская империя существовала совсем недолго: откол Югославии во главе с Тито и строптивость маоистского Китая обнажили истину, что коммунистический лагерь подвержен потрясениям вследствие национальных амбиций, которые оказались прочнее идеологических уз. Советско-китайский блок просуществовал около десяти лет, Советский Союз — около семидесяти.

Однако еще более важным с геополитической точки зрения явился распад Великороссийской империи с центром в Москве, существовавшей многие столетия. Причиной ее дезинтеграции явился глубокий общественно-экономический кризис советской системы, хотя многие признаки этой системы оставались почти до самого конца вследствие маниакальной государственной секретности и изоляционистских тенденций. Мир был шокирован динамизмом саморазрушения Советов. В течение двух коротких недель в декабре 1991 года руководители республик, входящих в состав Советского Союза, — России, Украины и Беларуси, вначале объявили о его расформировании, а затем официально заменили его более свободным политическим творением, названным Содружеством Независимых Государств (СНГ), охватывающим все, кроме прибалтийских, советские республики. Советский президент неохотно ушел в отставку, а в Кремле в последний раз был опущен флаг с серпом и молотом. Фактической преемницей Советского Союза стала Российская Федерация, многонациональное государство, населенное в основном русскими и насчитывающее около ста пятидесяти миллионов населения, в то время как остальные республики, в которых проживают оставшиеся сто пятьдесят миллионов, получили различной степени суверенитет.

Распад Советского Союза вызвал огромный геополитический хаос. В течение менее чем двухнедельного срока россияне, которые еще меньше, чем внешний мир, ожидали этого распада, неожиданно открыли для себя, что они уже не являются хозяевами империи, расположенной на двух континентах, и что границы России драматическим образом подвинулись: на Кавказе они проходят в том месте, где проходили в начале XIX в., в Средней Азии — там, где проходили в 1850 году, на западе еще более болезненно ощущается их расположение, они вернулись в состояние 1600 года, периода после правления Ивана Грозного. Потеря Кавказа породила стратегическую боязнь возобновления влияния Турции, а потеря Средней Азии вызвала раздражение в связи с возможностью утраты огромных энергетических и минеральных ресурсов этого региона, порождая при этом страх перед потенциальной исламской угрозой; объявление независимости Украиной подточило стремления России выполнять роль предводителя славянских народов, знаменосца, по воле Божьей, идей панславизма.



На пространстве, занимаемом многие столетия царской империей и в течение прошедших трех четвертей века контролируемом Советским Союзом, в котором доминирующую роль играла Россия, теперь находится несколько государств, в большинстве своем (за исключением России) почти не готовых к подлинной независимости. Эти государства отличались размерами: была среди них относительно большая Украина с населением в пятьдесят два миллиона и небольшая Армения с тремя с половиной миллионами. Способность этих государств к самостоятельному существованию была неизвестной, а также трудно было предвидеть, насколько прочно Москва приспособится к новой действительности. Исторический шок, который пережили россияне, усиливался еще тем, что около двадцати миллионов русскоязычных людей вдруг стали гражданами иностранных государств, все более подчиняющимися националистически настроенной политической элите, которая решительно желала подтвердить свое национальное самоопределение после многих десятилетий более или менее принудительной русификации.

Распад Российской империи создал в самом сердце Евразии политический вакуум. Молодые независимые республики были слабыми и находились в состоянии хаоса, а в самой России политико-экономические потрясения вызвали глубокий кризис системы, особенно когда была одновременно предпринята попытка демонтировать бывшую советскую общественно-экономическую модель. Военное присутствие России в Таджикистане усиливало чувство национального бедствия, вызванное страхом перед тем, что мусульмане подчинят себе молодое независимое государство, и это чувство особенно обострилось вследствие трагического, грубого, с точки зрения политической и экономической очень дорогостоящего вмешательства в Чечню. Самой болезненной для России была утрата своих позиций на международной арене: одна из двух супердержав стала для многих региональной державой на уровне стран третьего мира, обладающей по-прежнему значительным, но с каждым годом устаревающим, ядерным потенциалом.

Геополитический вакуум усиливался также масштабом общественного кризиса в России. Правление коммунистов, длившееся три четверти столетия, нанесло российскому народу беспрецедентный биологический урон. Значительная часть наиболее талантливых и предприимчивых людей были расстреляны или умерли в ГУЛАГе (их численность достигает многих миллионов). В довершение зла в течение XX столетия Россия пережила две мировые войны, а также длительную гражданскую; на алтарь этих войн были положены миллионы жертв, а страна подвергалась многократному разрушению. Правящий коммунистический режим навязал стране губительную идеологическую ортодоксию, изолируя одновременно Россию от остального мира. Экономическая политика игнорировала острые экологические проблемы, в связи с чем значительный ущерб был нанесен окружающей среде и здоровью населения. В середине 90-х годов, согласно данным официальной российской статистики, только около сорока процентов новорожденных были здоровыми, а около двадцати процентов российских первоклассников имели различные формы умственной отсталости. Средняя продолжительность жизни мужчин снизилась до 57,3 лет, умирало россиян больше, чем рождалось. Социальные условия в России были по существу такими же, как и в среднестатистической стране третьего мира.

Невозможно описать ужасные страдания, свалившиеся в двадцатом столетии на россиян. Почти ни одна российская семья не имела шанса на нормальное, цивилизованное существование. Достаточно вспомнить, какие социальные последствия повлекли за собой следующие события:

Русско-японская война 1905 года, закончившаяся унизительным поражением России;

первая «пролетарская» революция 1905 года с кровавыми беспорядками в российских городах;

первая мировая война в 1914—1917 гг., забравшая миллионы жертв и разрушившая экономику;

гражданская война 1918—1921 гг. с очередными миллионными жертвами и окончательным разорением страны;

польско-большевистская война 1919—1920 годов, также закончившаяся поражением России;

создание ГУЛАГа в начале двадцатых годов с параллельным уничтожением дореволюционной интеллигенции и ее массовым исходом из страны;

индустриализация и коллективизация страны, приведшие к массовому голоду на Украине и в Казахстане и миллионным жертвам;

большие чистки и террор в середине и конце тридцатых годов, когда миллионы людей были помещены в трудовые лагеря, более миллиона расстреляны, а несколько миллионов умерли из-за плохого с ними обращения;

Вторая мировая война 1941—1945 гг., забравшая очередные десятки миллионов жертв среди военнослужащих и мирного населения, и также до основания разрушившая экономику;

очередная волна сталинского террора в конце 40-х годов с повторением массовых арестов и частых экзекуций;

соревнование с Соединенными Штатами Америки в области вооружения, начавшееся еще в конце сороковых годов и продолжавшееся до восьмидесятых, которое привело к обнищанию общества;

изматывающие экономику попытки распространения советского влияния на Карибы, Ближний Восток и Африку в семидесятых и восьмидесятых годах;

разорительная война в Афганистане в 1979—1989 годах;

внезапный распад Советского Союза, после которого начинаются общественные волнения, тяжелый экономический кризис, кровавая и унизительная война с Чечней. ■

*(Продолжение следует)*

***Перевод Анны ТИШУК***

# Письмо из Югославии

**Это письмо россиянин Владимир Липунов получил по электронной почте из Югославии. Оно широко обсуждается в Интернете. Содержание письма разительно контрастирует с официальной пропагандистской истерией, нагнетаемой российскими СМИ вокруг войны на Балканах. Это мнение человека, которому известны внутренние отношения в Югославии, человека, который хочет свободы своей Родине, который принадлежит к среде интеллигенции, не принимающей политику президента Милошевича.**

Здравствуйте и спасибо за Ваше письмо, дорогой Владимир!

Извините, что в этом письме будет большое количество ошибок, потому что я никогда не учил эту транскрипцию русского языка. И вам не нужно извиняться за латиницу. Латиница тоже сербское письмо (но немного людей знает это, потому что пропаганда наших национал-фашистских властей не желает это признать). Отец сербской письменности, Вук Стефанович Караджич, писал часто латиницей.

Вы спрашиваете о положении в Сербии, «глазами обычного гражданина и интеллигента». Трудное это дело, и Ваш вопрос, может быть, совсем неподъемный, если Вы незнакомы с положением, которое здесь было много лет назад. За последние десять лет огромное большинство интеллигентов покинуло эту землю.



Поток албанских беженцев из Косово направляется в Македонию.

Даже официальные статистики, которые лгут во всех ситуациях, говорят, что из-за экономических или политических причин уехало 300.000 человек с дипломами университета (что для страны в 10 миллионов населения огромное число). Милошевич, которого почти все оставшиеся интеллигенты, как и я, считают фашистским диктатором латиноамериканского типа, у которого «эскадроны смерти» и соответствующие методы, сделал все возможное, чтобы уничтожить сербскую интеллигенцию, науку, культуру и т.д., и он это делал каждый день в течение последних десяти лет. Самое плохое последствие сегодняшней ситуации, и этого западные идиоты не понимают, есть то, что он останется у власти.

И это то, за что я и другие интеллигенты упрекают русскую политику, которая поддерживала Милошевича и его нацистских друзей. У него есть много теорий подобных гитлеровским. Он сказал, что все сербы «должны жить в одной стране, с одной властью», а помните, кто сказал: «Ein Reich — ein führer»? Но большинство сербского народа против него и против его политики, которая принесла эту настоящую трагедию. (Вы, надеюсь, не верите результатам выборов, которые все были ложные, и все интеллигентные люди в Сербии это знают.)

Что теперь будет? Никто не знает, и никто не видит (из моих друзей, а я хочу подчеркнуть, что здесь, на Родине, у меня осталось мало друзей) ничего хорошего впереди. Уже несколько раз в своей истории наш народ терял свои культурные потенциалы в войнах под руководством самых худших людей (так, например, было в Средние Века: когда турки напали, наша аристократия была абсолютно неспособна возглавить народ, и потому мы попали в турецкое рабство на четыре столетия). Это же и теперь самый вероятный вариант. И, конечно, Вы знаете действительно, как коммунисты в Польше не хотели обновлять Варшаву после второй мировой войны, чтобы показать всем, как они много страдали от немцев, и чтобы скрыть свою неспособность развивать страну. Так, наверное, будет и здесь. Люди, обычные граждане, совсем обозлены.

То, что я пишу Вам, может быть опасно для меня, но никто по совести не может больше молчать.

Скажите, пожалуйста, что еще Вас интересует?

*(Я попросил объяснить, что же, по его мнению, следует делать России в такой ситуации. — **В.Л.**)*

Что же России делать в такой ситуации? Хороший вопрос. Думаю, что правда всегда лучше лжи. Нужно признать правду, нужно сказать «ему», чтобы ушел из власти к удовольствию всех. Нужно посылать гуманитарную помощь (никакой военной помощи, иначе тиран использует ее сегодня против NATO, а завтра против своего народа, или той его части, которая не кланяется ему). Наконец, если Вы желаете простого политического ответа, нужно одобрить участие (несимволическое!) русских войск во всех миротворческих операциях, которые, рано или поздно будут здесь проведены. Но нужно во всех местах подчеркивать, что сербский народ — одно, а отвратительный тиран — другое. Предполагаю, что Вы не думаете, будто русский народ нужно оценивать по Ивану Грозному или Сталину — вывод очевиден...

Вопрос о сепаратизме. Косово, действительно, потеряно много лет назад вследствие монструозной антисербской политики коммунистов (сатанистов, как я люблю говорить). Сам Милошевич проводил ее, когда в 1989 году (он сам использовал свои диктаторские полномочия) и в 1991 году аннулировал закон — уже принятый в парламенте — возвращавший Православной Церкви ее огромные имущества в Косове (которые вор Тито украл и отдал коммунистической партии). Сербов сегодня там, действительно, не больше нескольких процентов. И знаете что: если Вы называете этот факт сепаратизмом, тогда сепаратизм и разделение немецкой национал-социалистической державы в 1945 году. Я подчеркиваю: сегодняшняя Сербия очень похожа на гитлеровскую Германию в малом. Бог не любит нацистов, он их накажет, раньше или позже. Тот, кто поддерживает Милошевича, делает ту же самую ошибку, что и монструозный советский диктатор, когда в 1939 году поддержал Гитлера.

Всего наилучшего. ■

***P.S.** Пока я это Вам писал, какая-то вещь упала в километрах двух от моей квартиры...*

*27 марта 1999*

*Орфография и пунктуация автора сохранены.*



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: edit@svaboda.minsk.by; naviny@hotmail.com http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 530 Нумар падпісаны ў друк 05/04/99 (15:00) Наклад — 16.990